№ 7 (36) Чэцьверг 10-га сакавіка, 1927 г. м. Вільня Год II

# Беларускае Слова

Выходзіць раз у тыд[...] Цана нумару 20 грош.

Нацыянальнае адрад[...]льная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе улас[...]ці.—Шырокі дэмакратызм.—Бар[...]—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.

Падпісная цана на [...]
„ „ „ [...]
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Ludwisarska 5 m. 2.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр.
„ сярод тэксту —25 гр.
„ на апош. стар.—10 гр.
за радок нонпарэля.



## Зварачываем увагу!

Ніжэй мы друкуем справаздачу зьезду сябраў і прыхільнікаў Беларускай Нацыянальнай Рады, які адбыўся 6 сакавіка ў м. Дзятлаве Навагрadзкага павету. Хто ня ведае, што Навагрadзкі павет быў яшчэ нядаўна цалком апанаваны праз гурткі Грамады. Нават паводле сваіх афіцыяльных даных, якія Грамада падала ў сваім календары—Наваградзкі павет займаў амаль *першае* мейсца па лічбе гурткоў Грамады. Праўда—мы падавалі весткі з усіх кутоў Заходняй Беларусі аб перамозе ідэолёгіі нацыянальна-дэмакратычнай —якую спавядае Бел. Нац. Рада, над ідэолёгіяй комуністычна-пралетарскай Грамады; падавалі і факты масавых выхадаў гурткоўцаў з Грамады і пераход іх да нацыянальна-беларускага лагеру. Але гэтыя ўцёкі з Грамады ня мелі яшчэ характару агульнага зьявішча, а імкненьне да нацыянальнай арганізацыі ня было ўліта ў конкрэтныя формы. Зьезд у Дзятлаве—ў гэтым яшчэ нядаўна грамадаўскім цэнтры—яскрава даказаў, што ідэя нацыянальная і *сіла арганізацыйная* Рады пачынае браць перамогу над нядаўна яшчэ магутнай арганізацыяй Грамады. Як ні рваліся грамадаўцы сарваць зьезд, як ні кідаліся на правакацыйныя спробы перакупкі білетаў у дэлегатаў, як ні прабавалі сілай урывацца у памешканьне—гдзе адбываўся зьезд — адважныя і сьвядомыя дружыньнікі Бел. Нац. Рады ўсім гэтым спробам палажылі рашучы канец. Зьезд адбыўся. Усьлед за канфэрэнцыямі ў Горадні і ў Баранавічах, якія мелі інфармацыйна-арганізацыйнае значэньне, зьезд у Дзятлаве мае значэньне іншае. Ен даказаў, што Ідэя і праграмовая тактыка Бел. Нац. Рады прызнаецца нават нядаўна разагітаванай Грамадою народнай беларускай гушчай. Ці не характэрна, што ў прэзыдыуме зьезду знаходзіўся п. Чырвоны, нядаўны яшчэ старшыня павятовага камітэту Грамады. Так, зьезд у Дзятлаве адбыўся і як беларускае грамадзянства, так і грамадзянства польскае павінна ўважна да яго аднясьціся і зрабіць адпаведныя вывады. Беларускае грамадзянства, як сялянства так і інтэлігэнцыя павінны зразумець, што адзіным шляхам Беларускага Народу — ёсьць шлях нацыянальна-дэмакратычны, пад якім павінны злучыцца ўсе нацыянальныя сілы Народу, а не шлях клясовай барацьбы і драбленьня на групкі.

Польскае грамадзянства, а перадусім Урад, павінны зразумець усю важнасьць паўстаўшай барацьбы паміж Радай і Грамадай. Павінны зразумець, што *для агульнай карысьці* ў дапамогу адважнай барацьбе Рады з боку Дзяржавы мусяць прыйсьці рэформы. Праўда ў Варшаве штосьці там распачынаецца: далі беларускія курсы, пачынаюць парцэляцыю, але ўсё гэтае, як мокрае гарыць. А падыходзяць рэформы самаўрадавыя, а за імі выбары ў самаўрады, а там недалёкія выбары і ў наступны Сойм. Дык няхай Варшава зразумее, што гэткія зьезды, як у Дзятлаве будуць мець мейсца па ўсім куткам Заходняй Беларусі, калі побач з высілкамі беларускіх нацыяналістаў у барацьбе з комуністычна-грамадаўскай заразай прыйдуць урадовыя рэформы для беларусаў.

Нарэшце зьезд у Дзятлаве разьвеяў байку аб сталёвасьці і магутнасьці Грамады, а адначасова даказаў, што з грамадаўскай заразай ў беларускім грамадзянстве могуць даць раду не рэпрэсіі і арышты, а выключна нацыянальна-беларуская контракцыя.

Грамадаўскі псыхоз Бел. Народу праходзіць. Чарга за Варшавай, каб і там псыхоз нядбайства аб Крэсах як найхутчэй прайшоў.

## Сьвятой памяці Міхала Пятровіча Арцыбашэва.



У Варшаве 3 сакавіка памёр вялікі расейскі пісьменьнік і патрыёт М. П. Арцыбашэў. Усё грамадзянства Польшчы бяз розьніцы нацыянальнасьці аплаквае передчасную сьмерць Арцыбашэва. Уся польская прэса адазвалася артыкуламі са спачуцьцём аб сьв. іпам. Арцыбашэве.

Ен будучы расейцам, гарачым і шчырым патрыётам, здужаў сабраць каля свайго імені агульную пашану. Мы беларускія антыбальшавікі, гэткія жа непрымірымыя, якім быў Нябошчык, асабліва цяжка і балезна адчуваем сьмерць М. П. Арцыбашэва.

Ен быў блізкі аднолькова усім: і расейцам і украінцам і нам—беларусам. Ен належаў да той невялікай групы расейскіх бацькоў-мысьліцеляў, якія зразумелі, што жыцьцё назад ня ідзе і што трэба шукаць новых шляхоў. А ў сваім нягаснучым вагню веры ў сваю Бацькаўшчыну і ў Яе вызваленьне, у нязломнай волі барацьбы з комунізмам — Ен — нябошчык павінен быць прыкладам і для нас беларусаў, як трэба кахаць сваю Бацькаўшчыну! Вечны спакой Табе брат — барацьбіт, — вечная памяць і слава табе ў тваім Народзе!

Беларускай Нацыянальнай Радай і Рэдакцыяй „Беларускага Слова" выслана да рэдакцыі „За Свабоду" гэткая тэлеграма:

*Варшава, Рэдакцыя „За Свабоду".*

Глыбока парушаныя передчаснай сьмерцяй вялікага расейскага пісьменьніка, патрыёта і ахвярнага барацьбіта за вызваленьня сваёй Бацькаўшчыны з-пад крывавага іга бальшавікоў, сьвятой памяці Міхала Арцыбашэва — Беларуская Нацыянальная Рада і Рэдакцыя „Беларускага Слова" засылаюць сваё шчырае спачуцьцё і жаль па страце выдатнага змагальніка з агульна людзкага антыбальшавіцкага фронту.

## Зьезд Беларускай Нацыянальнай Рады у ДЗЯТЛАВЕ.

6 сакавіка ў м. Дзятлаве адбыўся зьезд сябраў і прыхільнікаў Беларускай Нацыянальнай Рады з паветаў Наваградзкага, Слонімскага і Лідзкага.

Ужо больш году, як у Вензаўцу Дзятлаўскае гм. працуе сэкрэтарыят Беларускай Нацыянальнай Рады. З гэты час колькасьць сэкрэтарыятаў Рады і гурткоў культурна-прасьветнага Т-ва „Прасьвета" значна ўзрасла. Ня гледзячы на тое, што Грамада вельмі востра і энэргічна змагалася з імі, пабеда аказалася на старане Беларускай Нацыянальнай Рады. Сялянства зразумела, што ідучы рэвалюцыйным шляхам, апрача перасьледаваньняў і рэпрэсіяў яно нічога не атрымае. Праца жа легальная, хаця і паволі, але дае дадатнія вынікі. Дык і зразумелым ёсьць тое, што большасьць гурткоў Грамады тут была самімі сялянамі зьліквідавана. Сялянства хоча змагацца за свае правы — але змагацца шляхам легальным і гэтым тлумачыцца вялікі пасьпех Беларускай Нацыянальнай Рады, якая змагаецца за правы Беларускага народу шляхам легальным.

Ужо даўно адчувалася патрэба склікаНьня Зьезду. Вялікая колькасьць сымпатыкаў Рады і яе сябраў вымагала гэтага. Трэба было, каб голас тутэйшага сялянства, якое ня хоча рэвалюцыі, але трэбуе сваіх правоў — быў пачуты ў цэнтры.

Патрэбны быў зьезд таксама і ў мэтах арганізацыйных. Трэба было збудаваць сыстэму працы. Трэба было аб'яднаць нацыянальна — думаючае сялянства ў адзіную стройную арганізацыю.

З гэтай мэтай і быў склікаНы зьезд Беларускай Нацыянальнай Рады ў Дзятлаве з паветаў Наваградзкага, Слонімскага і Лідзкага.

Сэкрэтарыят Б. Н. Р. загадзя паведаміў грамадзянства, аб маючым адбыцца зьезьдзе, так што к прыезду з Вільні старшыні Беларускай Нацыянальнай Рады п. Паўлюкевіча — на рынку проці памешканьня сэкрэтарыяту—сабраўся вялікі натоўп людзей.

Зьезд адбыўся ў „Domie Ludowym". Перапоўненая саля, ня гледзючы на строгі кантроль і фільтроўку дружыньнікаў Рады ледзь зьмясьціла ўсіх. Прыбыла ўсяго да 200 асоб. Зьезд адбыўся спакойна. Ня гледзючы на тое, што некаторыя грамадаўцы і энпээхоўцы стараліся гвалтам улезьці да салі — ўсе спробы аказаліся дарэмнымі.

Нікога з прысутных не напугалі і пагрозы што пазьней прыдзе разрахунак. Сьвядомае беларускае сялянства з пагардай адносіцца ўжо да розных комуністычна-грамадаўскіх агэнтаў і недарослых чубатых хуліганаў — якім патрэбна рэвалюцыя.

Так што ніякія спробы не дапусьціць да зьезду або сарваць яго — не далі ніякіх вынікаў.

Раней усяго было прыступлена да выбару прэзыдыума. Абраны былі: *Лазоўскі Аляксандар* — старшыня. *Лебецкая Алена* — сэкрэтар, віцэстаршыня — *Кошко-Кастусь*, сябры — *Катрач Вера* і *Чырвоны Уладзімер*. Голас узяў старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады ў Вільні п. Паўлюкевіч.

У вялікай прамове *п. Паўлюкевіч* высьвятліў сучасную палітычную сытуацыю, закрануў ўсе крыўды і балячкі беларускага сялянства і накрэсьліў як-бы праграму працы Беларускай Нацыянальнай Рады.

П. Паўлюкевіч казаў: Калі яшчэ пяць гадоў таму назад беларускае сялянства было несьвядомым, калі на пытаньне хто-ты—адказывалі — або тутэйшы, або праваслаўны, або каталік — дык цяпер ужо кожны беларус ведае і лічыць сябе беларусам. Беларуская сьвядомасьць шырыцца з кожным днём..

Страшэнна цяжкі гаспадарчы крызіс ў Польшчы адчуваем першыя мы — беларусы. Найраней рэдукуюць беларуса. Беларуская вёска зьбяднела найбольш. Уся інтэлігэнцыя прымушана вясьці ледзь не жабрачае жыцьцё, бо беларус пасады адтрымаць ня можа. Беларускай школы німа... Самаўраду правідловага німа. Адміністрацыя складзена часта з людзей неадпаведных.

Усё гэта спарадзіла Грамаду, якая хацела шляхам рэвалюцыі прылучыць Заходнюю Беларусь да Саўдэпіі. Грамада абяцала ўсё. І незалежнасьць, і школу, і зямлю і ўсё тое, што толькі можа быць добрага.

Сялянства кінулася да Грамады. Пайшла да яе і безработная інтэлігэнцыя. За кароткі час Грамада зрабілася вялікай арганізацыяй. Але што-ж з гэтага выйшла. Абяцаючы ўсё, але маючы сапраўды адну мэту — прылучэньне Заходняй Беларусі да Саўдэпіі — Грамада распачала рэвалюцыйную працу. Забіваліся з-за вугла паліцыянты. Забіваліся наагул тыя — хто спрацівляліся грамадаўскай рабоце. Забіты беларускія сяляне Іголка, Скарына, Смолік.

Толькі што надыйшла, не спраўджаная яшчэ вестка, аб забойстве грамадаўцамі каля Езёрніцы сяляніна Нікіфара Скурскага. Грамада адкрыта паказывала на Менск і казала, што толькі работніцка-сялянскі ўрад можа задаволіць патрэбы Беларускага Народу.

Грамада стала нябясьпечнай для дзяржавы. Тады прыйшлі рэпрэсіі і сталася тое, аб чым Беларуская Нацыянальна Рада папераджала ня раз. Усюды дзе толькі працавала Грамада адбыліся арышты...

Грамадаўская стаўка была бітай і Грамада апрача новых няшчасьцяў нічога нам не дала.

Працавала і працуе на беларускіх абшарах і іншая падобная да Грамады і зьвязаная з ёю партыя — гэта Незалежная Партыя Хлопская. Але гэта партыя зьяўляецца для нас зусім чужой і варожай. На чале яе стаіць вядомы пасол — „інфарматар" Ваяводзкі Гэтая партыя яшчэ больш выявіла свае інтэрнацыянальныя рысы, чымся Грамада. За тое яна і зусім збанкрутавала разам з Грамадой.

Рэвалюцыя не ўдалася. Беларуская Нацыянальная Рада, каля якой гуртуецца нацыянальна думаючы элемэнт заўсёды змагалася з Грамадой, кажучы — што рэвалюцыйным шляхам беларусы здабыць нічога ня змогуць. Ды і зразумелым ёсьць тое, што улада не выпаўніла ні воднага грамадаўскага трэбаваньня. Бо нашто ж было даваць палёгкі — калі Грамада гэтага нават не хацела. Грамада хацела адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы, а тады ўжо ўсё прыйшло бы само сабой.

Грамада пашкодзіла нам яшчэ тым, што стварыла ўражаньне, быццам кожны беларус адначасова зьяўляецца комуністам. Грамадаўская праца і грамадаўскія газэты зрабілі гэтае. Такім чынам і польская дэмакратыя не хацела падтрымліваць справядлівых нашых трэбаваньняў, лічачы што бальшавікам даваць палёгкаў ня трэба, а з імі трэба змагацца

І вялікіх высілкаў каштавала беларускім нацыянальным арганізацыям, даказаць, што беларус і комуніст, гэта рэчы розныя.

І дрэнна зрабілі тыя беларускія інтэлігэнты, што пайшлі да Грамады, бо гэтым пагоршылі і сваё і свайго народу палажэньне.

І толькі цяпер, калі відаць, што Грамада ідзе на ўбыль — маюць прыйсьці рэформы. І гэтыя рэформы прыйсьці павінны. Ня прыйсьці яны ня могуць. Урад павінен разумець, і ён ужо разумее — што толькі апіраючыся на народ дзяржава можа істнаваць. Толькі на справядлівых адносінах да беларусаў — можа тут істнаваць польская дзяржаўнасьць. Толькі тады, калі нашыя справядлівыя дамаганьні будуць споўнены; калі беларусы ня будуць грамадзянамі другога гатунку — магчыма супольнае жыцьцё. Па-за сваімі межамі Польшча мае толькі ворагаў. С. С. Р. Р., Літва, Нямеччына. Знача толькі ў сябе ўнутры Польшча можа шукаць апоры і падтрыманьня. Але каб мець нашае падтрыманьне Польшча павінна задаволіць нашыя патрэбы.

Найвялікшы ў Польшчы чалавек — Язэп Пілсудскі, які ўжо два разы выратаваў Польшчу—разумее гэта яшчэ з 1919 году. І цяпер, калі марш. Пілсудскі трымае ўладу у сваіх руках — мы можам спадзявацца гэтых рэформаў. Праца над імі ўжо пачалася. У Варшаве ўжо працуюць над імі.

У Вільні ўжо працуе мяшаная польска-беларуская камісія па апрацоўцы школьных падручнікаў. Адчыняюцца ўжо вучыцельскія курсы, якія апрача таго, што дацуць працу безработным настаўнікам, кладуць фундамант пад гмах беларускае культуры. Пачынае праводзіцца у жыцьцё зямельная рэформа.

Але ўсе рэформы прыйсьці адразу ня могуць. Яны прыдуць паволі. І мы павінны тымчасам прыгатавацца да гэтых рэформаў.

Мы павінны арганізавана вясьці і пашыраць сваю культурна-нацыянальную працу праз адчыненьне культурна-прасьветных гурткоў. Мы павінны ладзіць беларускія спэктаклі, складаць дэкляраццыі на беларускія школы. Мы павінны актыўна выступіць на выбарах да самаўрадаў і правесьці сваіх людзей. Усю гэтую працу мы павінны весьці адкрыта і легальна. І толькі тады будучына будзе за намі. Да гэтага заклікае Беларуская Нацыянальная Рада.

Пад бурныя воплескі п. Паўлюкевіч скончыў сваю прамову. З той прычыны, што памешканьне ў „Доме Людовым" трэба было ўжо звольніць — Зьезд прадаўжаўся ў памешканьні Сэкрэтарыяту Б. Н. Р., да якога прэзыдыум, з прычыны малога памешканьня запрасіў прадстаўнікоў паасобных вясковых групаў.

